ДЗІЦЯЧАЯ ГАЗЕТКА

# Несцерка

Будзь разам з намі!

№3(46)

6 сакавіка 2003 года

Падпісны індэкс: 63672



# З 8 сакавіка

*Віншуем кожную дзяўчынку, кожную маці, кожную бабулю! Жадаем усім шчасця, шчырых усмешак, дабрабыту, пяшчоты і радасці. Як свеціць вясновае сонейка, так няхай свяцяцца і твары вашых родных.*

*Мая мама добрая такая,*
*Мая мама проста залатая.*
*Вельмі моцна мяне любіць —*
*Кожны раз і песціць, і галубіць.*
*І да сэрца горне і мілуе,*
*Потым шчыра, моцна пацалуе*
*І прамовіць ласкавае слоўца,*
*А сама засвеціцца, як сонца.*

**Марына Ксянзова, в. Лудчыцы, Быхаўскі р-н, Магілёўская вобл.**

*Мая маці працуе настаўніцай. Гэта вельмі цяжкая праца. Мая матуля — чалавек вельмі шчырай душы, высокаадукаваны. Яна можа заўсёды нешта параіць, а калі трэба, то і пасварыцца. Яна навучыла мяне адрозніваць дабро ад зла. Мая маці — самы прыгожы і самы добры чалавек на свеце. І колькі б нам не было гадоў: пяць, дзесяць ці сорак, — але для маці мы заўсёды застаемся дзецьмі.*

**Каця Рабцава, г. Горкі.**

Мая мама — добрая і прыгожая. Ніхто не можа з ёю параўнацца.

Я маме дапамагаю, чым магу: мыю посуд, вару ежу. Улетку дапамагаю палоць агарод. Увосень разам з ёю капаем бульбу, закатваем яблыкі, грушы, вішні, слівы, чарніцы, клюкву.

У вольны час гуляем, дзелімся сваімі сакрэтамі. Спаборнічаем: хто прачытае больш слоў у мінуту. Гуляем з нашай кошкай Маркізай. Мы яе любім.

Я жадаю маці быць шчаслівай, прыгожай, добрай.

***Марына Ксянзова.***



# Воля, што дапамагае


Каманда "Несцеркі".

Калі я ехала на злёт валанцёраў*, які адбываўся ў Магілёве, шчыра кажучы, не зусім дакладна разумела, чым жа займаюцца валанцёры. Раней думала, што гэта справа дарослых. І я памылялася. У нас шмат дзіцячых валанцёрскіх груп. Адны дапамагаюць дзецям-інвалідам: разам займаюцца ўрокамі, тлумачаць, калі што незразумела, вучаць вязаць і вышываць. Другія імкнуцца зрабіць больш цікавым і вясёлым жыццё для дзетак, якія адстаюць у сваім развіцці: для іх арганізоўваюць розныя святы. Ёсць валанцёры, якія працуюць у калгасах. Карацей кажучы, шмат дзяцей займаецца карыснай справай.

І на гэтым злёце мы ўсе разам абмяркоўвалі розныя пытанні, праблемы, якія цікавяць нас, і якія б мы хацелі вырашыць. Аказалася, што іх вялікая колькасць. Але больш хвалюе бескультур'е ў грамадстве, дасуг моладзі і праблемы дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. На маю думку, з гэтым пагадзіцца кожны. І зразумела, што побач павінны быць дарослыя, неабыякавыя да дзяцей і іх праблемаў. Дарослыя, якія могуць накіроўваць і дапамагаць.

Пад час злёту я пазнаёмілася з адной жанчынай. Валянціна Сасноўская — кіраўніца "Фонду развіцця дзіцячых і юнацкіх ініцыятыў", настаўніца і натхніцельніца на добрыя справы. А яшчэ валанцёры называюць яе проста "мамай".

***— Валянціна Віктараўна, чым займаецца ваша арганізацыя?***

*— Мы дапамагаем дзецям-інвалідам. Асабліва цяжкім дзецям, якія амаль увесь час знаходзяцца дома.*

***— А як ставяцца гэтыя дзеткі да вас?***

*— Яны радыя нам. Нават тыя, хто не можа сказаць нам гэта словамі. Яны пачынаюць хлопаць у далоні, робяць нейкія знакі ручкамі. Тады даеш паперу, і яны пачынаюць нешта маляваць. Малюнкі незразумелыя, але нейкія вясёлыя.*

***— Мы сёння абмяркоўвалі розныя праблемы, а як жа іх вырашаць?***

*— Усе праблемы, звязаныя паміж сабой. Наркотыкі і алкаголь з'яўляюцца там, дзе пануе абыякавасць, у першую чаргу, да сябе. А ці могуць адурманеныя людзі паводзіць сябе добра? Ці могуць яны тады думаць аб праблемах іншых? Зразумела, што не. Вось чаму трэба ўцягваць маладых людзей, дзяцей у актыўную грамадскую дзейнасць. Тады мы зможам разам вырашаць усе праблемы. А вы, журналісты, павінны нам у гэтым дапамагаць.*


Выступае Валянціна Сасноўская.

Потым я яшчэ шмат размаўляла з Валянцінай Віктараўнай і іншымі арганізатарамі злёту аб нашым далейшым супрацоўніцтве. І мне вельмі прыемна было даведацца, што і я, і мае сябры-карэспандэнты таксама з'яўляемся валанцёрамі "Несцеркі".

А напрыканцы хачу звярнуцца да ўсіх валанцёраў — дзяцей і дарослых — і сказаць вам вялікі дзякуй за вашу працу. Няхай такіх злётаў праводзіцца болей, а праблемаў становіцца меней.

***Таццяна Базылева, карэспандэнт газеты "Несцерка".***

*Валанцёр — дабраволец; чалавек, які добраахвотна выконвае нейкую працу .


Каманда Магілёўскай спецшколы.

**К О Н К У Р С!**



# Мой сябар Геша і коцік



На дзень нараджэння мне матуля падарыла папугая. Я назвала яго Гешай. Спачатку ён быў вельмі сумным. Аднойчы я прынесла яму вады, а Геша сядзеў ужо на клетцы. Як ён вылез, ніхто не ведаў. Мама параіла, каб я набыла новую клетку. З яе Геша ўжо не мог вылезці. Але ў той час у нас жыў маленькі коцік. Ён падбег да клеткі і пачаў царапаць яе. Геша зваліўся на дно клеткі, а потым вылецеў адтуль. І давай ганяцца за коцікам і кляваць яго. Было дужа смешна. Разабраўшыся са сваім "ворагам", Геша сеў мне на плячо і супакоіўся.



***Віталія Семянец, в. Вераскава, Навагрудскі р-н, Гродзенская вобл.***

# Містычны гадзіннік

Гэта было даўно. У 1970 годзе мой тата рыхтаваўся паступаць у Акадэмію мастацтваў. Яму трэба было здаць іспыт па беларускай літаратуры: напісаць сачыненне.

У гэты дзень ён устаў рана, баяўся спазніцца. Прыехаў, глядзіць, а нікога няма: ніводнай душы, ніводнага чалавека. Паглядзеў на гадзіннік — ужо амаль дзевяць, зараз павінен пачацца іспыт. Чаму ж нікога няма? Нічога не зразумеў мой тата. Пачаў бегаць па корпусе і глядзець на ўсе гадзіннікі. А яны ўсе паказвалі нібыта дзевяць. Тады ён вырашыў супакоіцца. А калі зноў глянуў на гадзіннік, усё зразумеў. Ад хвалявання тата пераблытаў час. Было толькі восем раніцы. Ён прыехаў раней, але такім чынам у таты была яшчэ цэлая гадзіна для падрыхтоўкі да сачынення.

**Рагнеда Купава, г. Мінск.**




# ГІСТАРЫЧНЫ ПРАГРЭС

У нашым класе ніколі не засумуеш. Амаль на кожным уроку здараецца нешта вясёлае. Нават цэлыя зборнікі смешных гісторый можна складаць. Зразумела, пра ўсё нельга напісаць. Але пра адзін выпадак, які адбыўся зусім нядаўна, я зараз распавяду.

Гэта было на ўроку сусветнай гісторыі. Мы праходзілі тэму "Каланізацыя Паўночнай Амерыкі". І ў канцы ўрока настаўніца запыталася: "Як утварыліся Злучаныя Штаты Амерыкі?" Спачатку рук не было. Потым адзін хлопчык падняў руку і адказаў: "Спачатку еўрапейцы прыехалі ў Паўночную Амерыку, потым пабудавалі хіжыны. Вось так утварылася высокаразвітая дзяржава ЗША". Усе схапіліся за жываты ад смеху. Клас доўга-доўга смяяўся, і настаўніца таксама. Яна спыталася: "Дзе ж ты такое прачытаў?" А вучань са здзіўленнем адказаў: "У падручніку!" "Цікава, — сказала настаўніца, — гэта трэба запісаць". Усе смяяліся, а хлопчык усё не мог зразумець, што ўсіх так развесяліла. Прыйшлося яму тлумачыць. Пасля гэтага доўга-доўга смяяўся ўжо ён з сябе самога.



***Каця Рабцава, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# Хто тут?



Гэта гісторыя здарылася са мной тады, калі я ляжаў у шпіталі. Аднойчы ноччу мне не спалася. Я ўстаў, каб пахадзіць па калідорах. Трохі пахадзіўшы, адчуў, што змерз, і мяне пачало кланіці да сну. Я зайшоў да сябе ў палату, навобмацак падышоў да свайго ложку, але выявіў, што ў ім нехта ляжыць. Я шэптам спытаў:

— Хто тутака?

Адказаў раздражнены дзявочы голас:

— Ах, бястыднік! Я зараз доктара паклічу!

— Ды хоць галоўнага лекара! Гэта мая канапа! Уставай хутчэй!

З суседніх ложкаў таксама пачуліся абураныя дзявочыя галасы... Тут да мяне дайшло, што я пераблытаў дзверы і зайшоў у дзявочую палату.

Я з хуткасцю стралы вылецеў з палаты, заляцеў у сваю і накрыўся коўдрай з галавою. Назаўтра галоўны ўрач імкнуўся даведацца, хто ж гэта нарабіў ноччу столькі перапалоху, ды так і не даведаўся. Не мог я прызнацца, што так бяспутна пераблытаў палаты.

***Сяргей Андросенка, г. Мінск.***



# Разумны брацік

Аднойчы я, бабуля і малодшы брат Алег пайшлі ў лес па грыбы. У лесе было шмат неядомых грыбоў, якія ў нашай мясцовасці называюць сабачымі. Алег пачаў збіраць гэтыя грыбы. Бабуля кажа: “Унучак, не збірай грыбы. Бабуля кажа: “Унучак, не збірай гэтыя грыбы. Яны ж сабачыя!”. А Алег ёй адказаў: “Збірай, бабуля, збірай, сабакам яшчэ вырастуць”. Вось такі ў мяне разумны брацік.

***Каця Савіцкая, Гродзенская вобл., Смаргонскі р-н, в. Крэва.***

# Два ў адным

*Пра гэты выпадак мне распавяла мая старэйшая сястра. На Радаўніцу яна са сваім сынам Алёшам хадзіла на могілкі. Калі яны вярталіся дадому, іх увагу прыцягнуў адзін помнік. Маці ўслых прачытала надпіс: “Тут пахаваны добры ўрач і цікавы чалавек”. Алёша доўга маўчаў, а потым запытаўся: “Мамачка, як жа змаглі ў адну магілу дваіх усунуць?”*

*Вось такая гісторыя, і сумная, і смешная адначасова.*

**Іван Літвінаў, г. Магілёў.**

# Знаходлівыя берандзейцы

Калі мы вывучалі на ўроках рускай літаратуры казку А.М. Астроўскага “Снягурачка”, настаўніца спытала, ці прачыталі мы яе загадзя. Яна задала нам пытанні: “Як вы ўяўляеце краіну Берандзееў? Чым займаліся яе жыхары?”

Адна вучаніца адказала:

— Я ўяўляю, што гэта краіна знаходзіцца на ўзгорку. Вакол лес. Людзі працуюць з задавальненнем. Любяць народныя святы, ушаноўваюць язычніцкіх багоў. Мужчыны займаюцца паляваннем і нарыхтоўкай дроў. Жанчыны — хатнімі справамі. Ёсць у іх і агароды, дзе яны саджаюць прадукты ...”

Тут клас засмяяўся, настаўніца таксама. Мы смяяліся вельмі доўга. А затым празвінеў званок. Так і закончыўся ўрок.







***Каця Рабцава, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# Вучуся клеіць



У панядзелак перад чацвёртым урокам, на перапынку, мы гулялі ў даганялкі. У класе на парце ляжаў клей, які добра і хутка засыхае, клей "Момант". Прынесці яго нам загадаў настаўнік па працы, таму што на гэтым уроку ў нас была тэма "Вучуся клеіць". На перапынку ў клас зайшоў хлопчык з другога класа. Ён заўважыў клей, пачаў разглядаць яго і ... адкрыў. Раптам, ненаўмысна, ён надавіў на цюбік. А ў гэты самы момант каля яго прайшоў мой аднакласнік Алесь. І ўвесь гэты клей папаў на Алесевы штаны. Бяда ў тым, што адразу ён гэтага не заўважыў. А калашыніны штаноў у гэты час склейваліся. Зрабіўшы крок наперад, Алесь паваліўся на падлогу. Было смешна, але не Алесю. Добра, што з сабою была спартыўная форма, і хлопцы дапамаглі Алесю пераапрануцца.

***Крысціна Дарожкіна, в. Падлужжа, Мсціслаўскі р-н, Магілёўская вобл.***

# Вясёлае сачыненне

Напісаўшы першы варыянт сачынення па беларускай мове, я прачытала вось што:

" У нас сям'я складаецца з чатырох чалавек. Яна вельмі дружная і вясёлая.

Тата — глава нашага сямейства. Мой тата цёска з Юрыем Аляксеевічам Гагарыным, яго завуць Васілій Аляксеевіч. Ён любіць глядзець тэлевізар і чытаць кнігі.

Маю матулю завуць Люба, яна працуе настаўніцай. Яна дапамагае мне, калі я ў цяжкім становішчы, заўсёды нешта параіць. Яна — самы любімы чалавек для мяне ў свеце.

Мой дзядуля вельмі жартаўлівы чалавек. Ён расказвае мне небыліцы са свайго жыцця. Мой дзядуля вельмі многа чытае, мо таму ён вельмі мудры. Мы з дзядулем равеснікі, як і я, ён нарадзіўся ў аўторак. Вось такая наша фамілія".

Прачытаўшы гэта сачыненне, мы смяяліся ўсёй сям'ёй.

***Каця Рабцава, г. Горкі, Магілёўская вобл.***

# ІНДЗЕЕЦ У "ФІГВАМЕ"

Я перапісваюся з адной дзяўчынкай з горада Клецка. Мы пішам адна другой розныя цікавыя гісторыі. І вось нядаўна мне прыйшоў ад яе яшчэ адзін цікавы ліст. Яна мне напісала:

"Аднойчы на ўроку геаграфіі мы праходзілі тэму "Паўночная Амерыка". Настаўніца распавядала пра жыллё індзейцаў:

– Жылі індзейцы ў шалашы, які называўся вігвам.

У нашым класе ёсць хлопчык, які ніколі на ўроках не слухае тлумачэнняў настаўнікаў, а займаецца сваімі някчэмнымі справамі. Настаўніца вырашыла яго правучыць:

– Паўтары, як называецца жыллё індзейцаў?

– Вігвам! Вігвам! — шапталі ўсе.

А ён не зразумеў і сказаў:

– Фігвам!

Усе ў класе доўга смяяліся, а настаўніца вырашыла, што з яго боку гэта ўжо залішне, і павяла небараку да дырэктара".

Вось такая гісторыя!



***Таццяна Яланская, г. Горкі, Магілёўская вобл.***



# КОНКУРС!





## Збавіцель

Ішлі неяк Саша Гаравы і Алег Дабрыновіч дадому. Па дарозе Сашку ў чаравік трапіў каменьчык. Якая пры гэтым хадзьба, самі ведаеце. Сашка спыніўся ля жалезабетоннага слупа, абапёрся на яго і стаў трэсці нагой, каб каменьчык выскачыў. На твары пры гэтым у яго была грымаса яўнага незадавальнення. Побач праходзіў нейкі стары з кійком. Глянуў на Сашку, а той трымаецца за электраапор, твар перакошаны, нага тузаецца. "Вой-вой, пад напружанне няшчасны трапіў!" — падумаў, відаць, стары. Ды як стукне драўляным кіем са ўсяго маху Сашку па руцэ! Шлях электратоку перакрыў...

Алег рагоча, і Сашка імкнецца выціснуць усмешку. Быў каменьчык у чаравіку, а цяпер гузак на руцэ. Добра, што галаву не падставіў.

***Іван Літвінаў, г. Магілёў.***



## Комікс

***Намалявала Рагнеда Купава, г. Мінск.***

1



2



3



4



5



## Асёл-вартаўнік

*Дарагія чытачы!*

*Я вам распавяду смешную гісторыю са свайго школьнага жыцця.*

*Ішоў урок па сусвету. Тэма ўрока была аб жывёлах. Настаўніца выклікала да дошкі вучняў і запытвала дамашняе заданне. І вось выйшаў да дошкі адзін мой аднакласнік. Настаўніца задала яму пытанне: "Якія жывёлы ахоўваюць дамы?" Вучань слухаў няўважліва, і вось, што ён адказаў: "Карова, конь, бык, асёл ..." Увесь клас засмяяўся, а хлопчык пачырванеў.*

**Юлія Гаерлі, г. Горкі, Магілёўская вобл.**

Усе, хто на старонках "Конкурс" імкнуўся рассмяшыць чытачоў і рэдакцыю, атрымаюць прызы!

## ЛЕЧЫЦЬ СТАКАН МАЛАКА



Я і мама захварэлі. "Чым жа палячыцца?" — падумалі мы. І тут жа ўзгадалі пра малако. Хто сходзіць па яго ў краму? Але ёсць жа тата. Мы папрасілі яго прынесці малака. Цёплы лекавы напой пілі ўсе разам. І адбыўся цуд. Назаўтра я пайшоў у школу, а маці на працу. Вылечыцца нам дапамагло звычайнае падагрэтае малако.

***Уладзімір Собалеў, г. Мінск.***

## ШАХМАТНЫ ГУРТОК

У гімназіі № 23 г. Мінска для вучняў пачатковых класаў адкрыўся шахматны гурток. Яго наведваюць больш за дваццаць чалавек. І яшчэ вялікая колькасць дзяцей аж моляцца, каб іх прынялі. Кіруе гуртком Юрый Аляксеевіч Радзькоў. Мы яго любім. На яго занятках вельмі цікава. Я ўжо навучыўся хадзіць фігурамі, рабіць ракіроўку, разыгрываць камбінацыі. Наша настаўніца Барздова Вольга Валер'еўна сказала, што шахматы вельмі дапамагаюць у вывучэнні матэматыкі.



***Уладзімір Собалеў, г. Мінск.***

# Вясёлы ўікэнд

Усе падзеі адбываліся ў нашай сталіцы, у горадзе Мінску.

Я дужа люблю розныя конкурсы, заўсёды прымаю ў іх удзел: Можа, таму мне і шанцуе.

17 студзеня я са сваім сябрам Паўлам вырашылі паехаць у Мінск, трэба было забраць у рэдакцыях газет падарункі. А потым нас чакаў яшчэ адзін прыемны прыз — вячэра ў рэстаране пры свячах.

Селі ў Магілёве на аўтобус і, каб не заснуць, увесь час расказвалі адзін аднаму анекдоты ды чыталі газеты. Так і прыехалі ў Мінск.

Трэба сказаць, што праграма ў нас была вельмі насычанай. За некалькі гадзін мы павінны былі пабываць у некалькіх месцах, таму вырашылі ўзяць таксі. Добра, што кіроўца папаўся добры. Мы яму распавялі, што прыехалі з Магілёва, Мінска зусім не ведаем, часу мала, дык ён і пагадзіўся павазіць нас за паўцаны.

Першы прыпынак — рэдакцыі газет "Мужской клуб" і "Гастроном". Вельмі было цікава паглядзець, дзе і як робяць газеты. Там мне ўручылі аўдыё- і відэакасеты, а саліст групы "Тяни-толкай" падараваў свой CD. Потым паехалі ў рэдакцыю газеты "Зорька", дзе я атрымаў прыз — сапраўднае фота Алсу. А яшчэ ў мяне ўзялі інтэрвью, у якім я расказаў і пра цябе, "Несцерка".

Прыпынак другі — рэстаран "У Францыска". На таксі мы сюды прыехалі вельмі хутка. Аказалася, што ў нас ёсць яшчэ цэлая гадзіна, каб пагуляць па горадзе. Я свайму сябру прапанаваў экскурсію ў метро. І там здарылася вось што. Мы знайшлі партаманэт, у якім ляжалі ключы ад кватэры і аўтамабіля "Opel". Прыйшлося выйсці з метро і шукаць гаспадара нашай знаходкі. Знайшлі! Гэта была жанчына. Ад радасці яна павяла нас у ГУМ і зрабіла нам падарункі. З вельмі добрым настроем мы зайшлі ў рэстаран. Але і тут не абышлося без прыгод. Каля ўваходу я ўбачыў мужчыну і пачаў у яго запытвацца. Не ведаю, колькі б я чакаў адказу, калі б мой сябар не пачаў смяяцца. Аказалася, што гэта манекен. Надалей я стаў больш асцярожным. Калі ўбачыў дзяўчыну, доўга глядзеў, пакуль не ўпэўніўся, што гэта сапраўдная афіцыянтка. У рэстаране мы прабылі больш за две гадзіны. Смачна пад'елі, а вось на тэлеперадачу "5x5" не паспелі. Шкада, але гэта не сапсавала наш настрой, бо дадому мы вярталіся з вялікай колькасцю падарункаў. На жаль, не было ў мяне з сабой фотаапарата. Таму вам прыйдзецца паверыць мне на слова.

P.S. Цяпер я мару прыняць удзел у тэлеперадачы "Вялікае мыццё". Ліст я ўжо даслаў, чакаю запрашэння.

***Іван Літвінаў, г. Магілёў.***

ФОТАГАЛЕРЭЯ ЧЫТАЧОЎ



— Мама, што ты купіла?
— Свежую рыбу, зараз будзем смажыць.
— А я думаў, што зімой толькі мароженая рыба бывае.

***Віталія Семянец, в. Вераскава, Навагрудскі р-н, Гродзенская вобл.***

## Усміхнемся

Таня размаўляе з мамай па тэлефоне:
— Таня, уключы бабулі радыёпрыёмнік.
— Як?
— Відэлец трэба засунуць у разетку.
— Не атрымліваецца.
— Чаму?
— Мама, у відэльца ж тры зубы, а ў разетцы ўсяго дзве дзіркі!..

***Крысціна Дарожкіна, в. Падлужжа, Мсціслаўскі р-н, Магілёўская вобл.***

1. З-пад снегу выйшла, расцвіла, і так, што аж зіма ўцякла.
2. Гладкі жывоцік, гарбатая спінка, хвост паласаты, доўгі і з вілкай.
3. Між лугоў, лясоў удалеч стужка сіняя віецца. І агонь яе не спаліць, і ніколі не парвецца.
4. На стале заўсёды ў святы прыгажун стаіць пузаты. Ні хвіліны не сумуе, пахкай гарбатай нас частуе.
5. Крылаў не мае, ды хутка лятае. Выпусціш — рад ці не рад, а не зловіш назад.
6. Вы знаёмы з гэтым зверам? На ілбе ў яго два дрэвы.
7. Чатыры асілкі — чатыры браты. І кожны аднолькава дуж. Побач заўсёды яны і, прытым, носяць адзін капялюш.
8. Пад зямлёй будуе дом і вядзе тунэлі. Невідушчым маўчуном ён жыве век цэлы.
9. Знаходзіцца дома ў сонечны дзень. А вось у дажджлівы — гуляць ён ідзе.

***Валерыя Шакаль, г. Горкі, Магілёўская вобл.***



## Смяшынкі

Цётка пачаставала Алесю піражком. Алеся падышла да люстэрка і пачала есці.
— Чаму ты ясі перад люстэркам?
— Каб з'есці два піражкі адразу, — адказала Алеся.

***

— Чаму певень спявае з заплюшчанымі вачамі?
— А ён хоча паказаць курам, што песню сваю ведае на памяць.

***

— Адчыні вароты!
— А хто едзе?
— Той, што ўсё ўмее!
— Глядзі, усё ўмее, а трэба яшчэ яму адчыняць вароты.

***Дзяўчынка, 10 год, в. Копцеўка, Горацкі р-н, Магілёўская вобл.***



***Я — Вова Войстраў з в. Баркалабава, Быхаўскага р-на, Магілёўскай вобл, Сяргей і дзядзя Саша.***

ФОТАГАЛЕРЭЯ ЧЫТАЧОЎ



**А адказы ў наступным нумары...**

Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.

*Кошт газеты ў падпісцы — 212 рублёў за нумар.*

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.

Замова 21. Наклад 1300 асобнікаў. Падпісана да друку 05. 03. 2003г. а 17.00.

*Адрас рэдакцыі:*
213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
Тэл. 8-(02233)-5-09-59
E-mail: nescerka@hotbox.ru